# Покліч Волі

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №10 (137)
ЧЭРВЕНЬ 2013 ГОДА

**"Покліч волі" ў Інтэрнэце**

**Зараз наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/poklicz_voli.html , што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.**

*Партал твайго раёна: http://vicebskreg.by*

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## ГУРТУЕМСЯ!

**Як паведаміў "Беларускі партызан", у пятніцу на будаўнічай пляцоўцы Беларускай АЭС адбыўся стыхійны страйк рабочых. Яны адмовіліся выконваць свае працоўныя абавязкі, замест чаго палілі, гулялі ў карты ...**

Сутнасць канфлікту палягае ў тым, што замест абяцаных 15 мільёнаў рублёў за мінулы месяц беларускія будаўнікі атрымалі ўсяго па 5 мільёнаў заробку. І гэтаняглядзячы на тое, штопрацавалі да сёмага поту. Пры гэтым работнікі з Расіі за той жа самы аб'ём працы атрымліваюць у разы больш, што гэтак жа не дадае беларусам працоўнага энтузіязму.

Па неправеранай інфармацыі, адразу пасля страйку звольнілася 25 чалавек, яшчэ каля 300 напісалі заяву аб сыходзе.

Сёння знаёмы кіроўца, які па чэрвеньскай спёцы штодзень кружляе па гарадскіх вуліцах за тры з паловай мільёны, таксама наракаў на несправядлівасць у аплаце. Маўляў, у Менску за тую ж працу ён меў бы сама меней у два разы больш.

Атрымліваецца жыхары сталіцы і расейскія ды іншыя замежнікі з чыёйсьці волі чамусьці знаходзяцца ў прывелеяваным становішчы ў адносінах да астатніх рабочых. У Расеі падыходзяць па-разумнаму: расеец, як гаспадар, атрымоўвае больш, а гастарбайтэр – менш. Справядлівы падыход – дзяржава й наймальнікі клапоцяцца пра сваіх грамадзянаў, пра іхнюю самапавагу й гонар.Тут жа існая ўлада здзекваецца з чалавека, змушаючы яго зьязджаць у іншыя краіны ў пошуках добрага заробку. У выніку чаго сотні тысячаў суайчыннікаў вымушаныя жыць удалечыні ад сям'і, не плацячы налогаў ва ўласнай краіне, падрываючы сваё здароўе, павышаючы статыстыку разводаў…

Калі інфармацыя дакладная, то, звольненыя адміністрацыяй ці па ўласным жаданні працаўнікі, не дасягнулі сваёй мэты, а горкі прысмак паразы наўрадці падштурхне іх да законных спосабаў барацьбы за свае правы. Хаця ў нашых умовах ці ёсць яны гэтыя законныя спосабы?

Каб развіць гэтую думку, звернемся да больш арганізаванай катэгорыі грамадзянаў – прадпрымальнікаў, якія супольна адстойваюць свае правы. Як вядома, яны ўжо праводзілі папераджальныя страйкі супраць ўвядзення тэхнічнага рэгламенту Мытнага саюзу, які, паводле праведзеных разлікаў, паставіць іх на мяжу выжывання.

Зараз жа прадстаўнікі малога і сярэдняга бізнэсу настроены больш рашуча: яны вырашылі пачаць збор подпісаў за выхад Беларусі са складу Мытнага саюзу, а 27 чэрвеня правесці папераджальны страйк.

Так старшыня рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Перспектыва» Анатоль Шумчанка, ацэньваючы сітуацыю, сказаў: «Меркаванне простых прадпрымальнікаў такое, што на сённяшні дзень менавіта дадзены геапалітычны суб'ект( Мытны саюз) ставіць пад пагрозу нацыянальны бізнэс Беларусі».

Цяжка сказаць ці адстояць сябры " Перспектывы" свае эканамічныя інтарэсы, але ўжо адно тое, што яны маюць сваю арганізацыю, надае ім моцы.

Таму з усяго вышэйсказанага, можна сказаць толькі адно: " Гуртуемся!". Гуртуемся дзеля адстойвання сваіх эканамічных, нацыянальных і палітычных правоў.

**Рэдактар**

ЖЫЦЦЁВЫЯ НЯГОДЫ

## У ВЁСЦЫ ПАД ВІЦЕБСКАМ ЗАЧЫНІЛІ ФАП

**Ужо тры гады жыхары вёскі Астроўскія Віцебскага раёна жывуць без фельчарска-акушэрскага пункта.**

Будынак зачынены, паколькі прызнаны аварыйным. Вядома, яны не застаюцца зусім без увагі медыкаў - раз на тыдзень прыязджае ўрач, які вядзе прыём, а на час адпачынку яго замяняе фельчар.

Астроўскі - вялікае паселішча, па дадзеных на пачатак 2012 года, тут пражывала больш за 230 чалавек. Аднак на нядаўняй сустрэчы з жыхарамі яны распавялі, што ў вёсцы ўжо ёсць папаўненне - жанчыны нараджаюць, ёсць тут і шматдзетныя сем'і. Зразумела, штолетам насельніцтва павялічваецца за кошт гасцей і дачнікаў, якія прыязджаюць на адпачынак. Прырода ў гэтых месцах незвычайная, але ж адным паветрам здаровым не будзеш, ды і старых, нямоглых людзей тут нямала.

За Астроўскім фельчарска-акушэрскім пунктам было замацавана медыцынскае абслугоўванне насельніцтва яшчэ пяці прылеглых вёсак у радыусе шасці кіламетраў. Сёння, калі старое памяшканне закрыта, а на новым меркаваным месцы размяшчэння пункта медыцынскага абслугоўвання працы ідуць так сабе, жыхары Астроўскіх адчуваюць сябе, сапраўды, у некаторай ступені "астраўлянінамі". Выбірацца за сур'ёзнай медыцынскай дапамогай, за неабходнымі лекамі прыходзіцца ў Віцебск. А гэта значыць, што міжвольныя "нацэнкі" за кожную набытую ў горадзе пілюлю або прэпарат складаюць 40 тысяч рублёў - кошт квітка на аўтобус у абодва бакі.

Адсутнасць ФАПу з нармальнымі ўмовамі прадастаўлення медыцынскіх паслугаў выклікае ў людзей зразумелае раздражненне. І ўсё ж яны спадзяюцца, што мясцовая ўлада, дэпутаты, кіраўніцтва аховы здароўя знойдуць хуткае рашэнне наспелай праблемы.

**"Віцьбічы"**

АКЦЫЯ САЛІДАРНАСЦІ

## "НЕ БАЛБАЧЫ! НЕ ДУМАЙ! А ТО ЗАПІШУЦЬ У ШПІЁНЫ»

**У Віцебску актывісты "Маладых хрысціянскіх дэмакратаў" зладзілі акцыю салідарнасці з наваполацкім дэмакратычным актывістам Андрэем Гайдуковым,якіабвінавачваецца ў здрадзе дзяржаве.**

Падчас акцыі ў двух раёнах і ў цэнтры Віцебску (побач з абласным судом, дзе праходзіць працэс над Гайдуковым) былі расклееныя ўлёткі супраць судовага працэсу. Гэтымі ўлёткамі актывісты МХД хацелі паказаць, што беларусаў прымушаюць не думаць пра тое, што адбываецца вакол, і забараняюць абмяркоўваць гэта, у адваротным выпадку – людзі таксама становяцца "шпіёнамі" і "здраднікамі", як Андрэй Гайдукоў:

«Не болтай! Не думай! А то запишут в шпионы ».

**Ян Сведка**

ЭПІДЭМІЯ

## У НАСЕЛЬНІЦТВА АДБІРАЮЦЬ І ЗНІШЧАЮЦЬ СВІНЕЙ

**У трох вёсках Віцебскага раёна – Ліпаўцы, Шапечына і Асінаўка - у насельніцтва канфіскавалі і знішчылі свіней, якія ўтрымліваліся ў асабістых прысядзібных гаспадарках. Матывуецца гэта нейкай эпідэміяй, але якой менавіта гаспадарам жывёлаў не паведамляецца.**

У Шапечына, убачыўшы карэспандэнта «Народных навінаў Віцебску» з камерай, людзі хавалі вочы і адмаўляліся гаварыць. Атрымалася пагутарыць толькі з маладым хлопцам - ён падцвердзіў, што 19 чэрвеня ў іх вёсцы канфіскавалі ўсіх свіней, пагрузілі іх у прычэпы трактароў і павезлі ў невядомым кірунку. Насельніцтву паралі асабліва не распаўсюджвацца пра тое, што адбываецца, калі не хочуць непрыемнасцяў на працы.

У Асінаўку ліквідатары дабраліся толькі сёння, і частка гаспадароў паспела зарэзаць сваіх свіней. Але ў тых, хто не паспеў апрацаваць убоіну, свіныя тушы забіралі і канфіскоўвалі.

Як распавяла адна з жыхарак Асінаўкі, за некалькі дзён да гэтага падворкі абыходзіў старшыня сельсавета, які запісваў у каго колькі змяшчаецца свіней. Сёння адбіраць жывёлаў прыехалі прадстаўнікі ветэрынарнай службы ў суправаджэнні міліцыі. Забітых свіней ніхто не ўзважваў, нават мерныйстужкі пры сабе ў ліквідацыйнай каманды не аказалася - вага жывёлы ў акт канфіскацыі запісваўся «на вока».

Нашаму карэспандэнту атрымалася пагаварыць з дэзінфектарамі, якія прыехалі апрацоўваць пабудовы, у якіх утрымліваліся свінні. Яны сказалі, што не ведаюць, чым былі хворыя жывёлы, проста атрымалі ўказанне апрацаваць адрыны каўстычнай содай. Да гэтага, пры канфіскацыі, памяшканні апырсквалі хлоркай. Зрэшты, мець зносіны з прэсай гэтыя людзі відавочна не жадалі.

**http://news.vitebsk.cc/2013/06/20**

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## БАЙКЕРЫ САБРАЛІСЯ НА "ЛЫСУЮ ГАРУ 2013"

**Пад Віцебскам, у вёсцы Малыя Лётцы 14-16 чэрвеня, праходзіць мотаслет "Лысая гара - 2013".**

Акцыю для сваіх сяброў з розных гарадоў Беларусі, Расіі, Украіны, прыбалтыйскіх краін арганізаваў віцебскі мотаклуб RoadDogs ("Псы дарог").

У праграме мотаслета - рок-канцэрты, байкерскія конкурсы, салют, дыскатэка. Адной з падзейсуботняга дня стаў прыезд калоны байкераў на плошчу Перамогі. Тут ўладальнікі "жалезных коней" "прыпаркаваліся" прыкладна на гадзіну і дазвалялі ўсім жадаючым фатаграфавацца на фоне сваёй тэхнікі.

Затым яны ў суправаджэнні міліцыі праехалі мотапарадам па цэнтральных гарадскіх вуліцах. Чакаецца, што сёння позна ў вечары на "Лысайгары - 2013" выступіць легендарны беларускі гурт "Крама".

**news.tut.by/kaleidoscope/353323.html**

## АБ'ЯВА

***Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/ , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/poklicz_voli.html.***

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Покліч Волі» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***
- ***Рэдакцыя «Покліч Волі» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Покліч Волі».***

ФЕСТЫВАЛЬ

# У ПАРКУ ВЫРАСТУЦЬ ДРЭВЫ З ЗАЛАТЫМІ КЛЮЧЫКАМІ

**Міжнародны дзіцячы музычны конкурс – адзін з самых відовішчных і любімых у публікі на "Славянскім базары ў Віцебску".**

У гэтым годзе на "маленькім базарчыку", як заўсёды, чакаюць у госці казку і неверагодныя сюрпрызы.

Дзядзька Ваня ў ролі вядучага дзіцячага конкурсу "Віцебск-2012".

Як паведамляе афіцыйны сайт фестывалю "Славянскі базар у Віцебску", весяліць юных артыстаў у гэты раз будуць Бураціна і кампанія - Ліса, Кот, Карабас-Барабас ... Дакладней, Пінокіё і кампанія. Бураціна - гэта ж рускі варыянт казкі італьянскага пісьменніка Карла Калоддзі "Пінокіё. Гісторыя драўлянай лялькі". Паміж "Залатым ключыкам" АляксеяТалстога і творам Калоддзі ёсць адрозненні - у імёнах, характарах герояў. І дзецям з розных краінаў больш знаёмы менавіта Пінокіё.

Лёсаванне юных канкурсантаў адбудзецца 9 ліпеня, па традыцыі апошніх гадоў - у парку Мазурына. Дзеці прыплывуць сюды на цеплаходзе з Віцебска. І трапяць ... Не, не на Дураково поле. А на Чароўную паляну. На ёй будуць расці казачныя дрэвы - з залатымі ключыкамі і залатымі манетамі. Тут дзеці і пазнаёмяцца з гарэзным драўляным хлапчуком Пінокіё. На жараб'ёўцы будзе інтрыга: нумар выступлення дзіцяці ў першы конкурсны дзень будзе пазначаны на залатым ключыку, а ў другі - у мяшэчку з залатой манеткай.

Конкурсныя дні дзеці правядуць у чароўным музычным тэатры, які будзе пабудаваны на сцэне канцэртнай залы "Віцебск". Вядома, і тут таксама не абыдзецца без Пінокіа, Ката і Лісы (дарэчы, у італьянскім варыянце яны не такія прайдзі светы) і Карабаса Барабаса.

Гаспадара лялечнага тэатра на італьянскі манер клічуць Манджафоко. І ён значна дабрэй персанажа "Залатога ключыка". Манджафоко ў Віцебску наогул будзе падобны на анёла: па ходзе казкі і лёсавання ён будзе ўсіх ахоўваць і ўсім дапамагаць. Роля Карабаса Барабаса возьме на сябе беларускі спявак Дзядзька Ваня (ІванВабішчэвіч).

У ХІ Міжнародным дзіцячым музычным конкурсе "Віцебск-2013" прымуць удзел 18 маленькіх артыстаў з 21 краіны. Нашу краіну на ім прадставяць 11-гадовыя Апалінарыя і Аляксандра Лакціёнавы. Узначаліцьжуры конкурсу спявачка, кампазітар, народная артыстка Беларусі Ядвіга Паплаўская.

Рэжысёр-пастаноўшчык праграмыміжнароднагадзіцячага музычнага конкурсу "Віцебск-2013" – намеснік генеральнага дырэктара па культурна-масавай рабоце "Цэнтра культуры" Віцебск "Ірына Каўлена.

**festival.vitebsk.by**

ПРАФІЛАКТЫКА ПРАВАПАРУШЭННЯЎ

# У МЕЖАХ ПРАГРАМЫ " КЛОПАТ"

**З мэтай прафілактыкі безнагляднасці і правапарушэнняў сярод непаўналетніх, вывучэння арганізацыі іх вольнага часу супрацоўнікі Віцебскага РАУС з першых летніх дзён падключыліся да міжведамаснай спецыяльнай праграме «Клопат».**

Начальнік інспекцыі па справах непаўнагадовых Віцебскага РАУС Юрый Жораў лічыць, што ў аснове работызнепаўнагадовымі павінна быць прафілактыка. Нягледзячы на станоўчую тэндэнцыю зніжэння колькасці падлеткавых злачынстваў, праваахоўнікі і ў далейшым маюць намер засяроддзіць асноўныя намаганні на правядзенні мерапрыемстваў па папярэджанні п'янства, наркаманіі і таксікаманіі сярод непаўнагадовых. Сёння на ўліку ў ІСН складаюцца 80 хлопчыкаў і дзяўчынак, большасць з якіх - навучэнцы Лужаснянскага агракаледжа і прафесійна-тэхнічнага каледжа сельскагаспадарчай вытворчасці (аг. Акцябрская).

У загарадным аздараўленчым лагеры «Спартакавец» у в. Барвін Перавоз с мэтай прафілактыкі здзяйснення падлеткамі супрацьпраўных дзеянняў супрацоўнікі ІСН Вераніка Ханеўская і Іван Сівец сумесна са старэйшым оперупаўнаважаным ГН і ПТЛ РАУС Юрыем Кавалёвым расказалі дзецям, як зрабіць летні адпачынак бяспечным. Занальныя участковыя інспектары звярнулі ўвагу на не дзіцячыя забавы, якія заканчваюцца пастаноўкай на ўлік у інспекцыі па справах непаўнагадовых (за распіццё спіртных напояў, хуліганства). Супрацоўнікі міліцыі не схвалілі ад хлопчыкаў і дзяўчынак, што цяпер малалетніх "герояў" вылічаць стала прасцей. Бо іх «подзвігі» становяцца здабыткам грамадскасці з дапамогай сацыяльных сетак.

Паглядзелі школьнікі фільм «Твой выбар». У аб'ектыве тэлекамеры апынуліся іх аднагодкі, якія ў свае 14-16 гадоў знаходзяцца за калючым дротам, у лячэбна-выхаваўчых установах закрытага тыпу. На экране –рэальныя лёсы, ня выдуманыя гісторыі тых, хто ў свае юныя гады спатыкнуўся і ўвайшоў пра гэта.

Вераніка Ханеўская правяла прафілактычную размову па бяспецы дарожнага руху, нагадаўшы пра абавязковае выкарыстанне святлоадбівальных элементаў на неасветленых участках праезнай часткі, пра адказнасць за правапарушэнні, пра шкоду алкаголю і курэння ў падлеткавым узросце.

Самым шматлюдным месцам у гэты дзень стала пляцоўка каля аднаго з карпусоў, дзе міліцыянты разгарнулі выставу баявой зброі. У экспазіцыі: аўтамат Калашнікава, снайперская вінтоўка Драгунова, пісталет Макарава і Марголіна, штык-нож, а таксама спецыяльныя сродкі абароны і сувязі. Паглядзець на экспанаты мог кожны, але толькі самыя смелыя адважыліся пад чулым кіраўніцтвам вартаўнікоў парадку паспрабаваць свае сілы ў разборцы і зборцы аўтамата Калашнікава і пісталета Макарава.

**Поўны тэкст на http://uvd.vitebsk.by**

З ГІСТОРЫІ

# «ВІЦЕБСКІ ГУЛІВЕР»

**18 чэрвеня 1878 года, 135 гадоў таму, у невялікай вёсачцы Касцюкі пад Віцебскам нарадзіўся самы вялікі чалавек у свеце – Фёдар Махноў.**

Самым высокім чалавекам у свеце афіцыйна лічыцца амерыканец Роберт Удлоў, рост якога 272 сантыметры. Але гэтае прызнанне памылковае: бо рост Фёдара Махнова роўны 285 сантыметрам. Гэты факт пры жыцці беларускага волата зафіксаваў варшаўскі антраполаг Лушан.

Хлопчык нарадзіўся вельмі буйным. Падчас родаў яго маці памерла. Сірату на выхаванне забралі дзядуля з бабуляй. З 8 гадоў Федзя пачаў хутка расці і набірацца сіл. У гэты перыяд хлапчук спаў суткамі напралёт.

У 10 гадоў бацька, які ажаніўся ў другі раз, забраў Фёдара да сябе дапамагаць па гаспадарцы. Сялянская праца загартавала Фёдара.

Мясцовыя жыхары часцяком звалі яго дапамагчы паднясць бярвёны пры будаўніцтве дамоў, а памешчык Каржанеўскі наняў юнага асілка ачысціць рэчку Зароновку ад валуноў, якія перашкаджалі працы вадзянога млына. Працяглая праца па пояс у халоднай вадзе далася ў знакі рознымі хворасцямі на працягу ўсяго жыцця волата.

Да 14-ці гадоў юнак вымахаў да 2-х метраў, і бацьку прыйшлося паднясць дах дома на некалькі вянцоў.

Неяк у Віцебску незвычайнага падлетка, які ўзвышаўся каланчой над Полацкім базарам, запрыкмеціў уладальнік нямецкага цырка Ота Біліндэр, ён хутка ўгаварыў бацьку Фёдара адпусціць сына з'ехаць з цыркам ў Нямеччыну. Немец запэўніў, што юнак з яго ростам і сілай заробіць шмат грошай і зможа потым дапамагаць сям'і.

Так, або прыкладна так, «беларускі Гулівер» ў 14 гадоў з'ехаў здзіўляць і пакараць Еўропу сваімі незвычайнымі прыроднымі здольнасцямі.

Ота Біліндэр вельмі добра ставіўся да Фёдару. Толькі калі юнаку споўнілася 16 гадоў, быў складзены першы ў жыцці кантракт, і Хведар стаў выступаць у цырку.

Пад час выступаў наш волат лёгка гнуў адной рукой падковы, закручваў спіраллю жалезныя дубцы, а затым выпростваў іх. Ударам рабра далоні ён разбіваў цэглу. Лежачы на спіне, без асаблівых цяжкасцяў падымаў драўляную платформу, на якой граў аркестр з трох чалавек.

Выступаў Махноў ў цырку і ў якасці асілка. Супернікі ў яго былі самыя знакамітыя, бо далёка не кожны наважваўся пазмагацца з волатам. Асабліва буйных поспехаў на дыване Махно недасягнуў. Аднак адно толькі з'яўленне яго на арэне выклікала захапленне ў публікі.

За дзевяць гадоў працы ў цырку Фёдар Махноў стаў забяспечаным чалавекам.

У пачатку 20-га стагоддзя ён вяртаецца ў родныя мясціны. Перш за ўсё Махноў купляе ў памешчыка Паўла Канстанцінавіча Каржанеўскага, які з'ехаў у Францыю, зямлю і дом.

Пабудаваўшы дом, волат вырашае прывесці ў дом жонку. Хоць Фёдар быў добры па натуры, ды і жаніхом багатым, сваты з цяжкасцю знайшлі яму нявесту. Ёю апынулася сельская настаўніца Ефрасіння Лебедзева. Яна была вышэй сярэдняга росту, але ўсёроўна ніжэй за мужа амаль на метр.

Неўзабаве пасля вяселля ў сям'і нарадзілася дачка Марыя, а яшчэ праз год - сын Мікалай.

Час ад часу для папаўнення сямейнага бюджэту Фёдар Махноў выязджаў са свайго Веліканова хутара «на заробкі». Ён наведваў барцоўскія турніры, дэманстраваў свае прыродныя магчымасці ў цырках і музеях сталіцы і іншых гарадах расейскай імперыі. У час такіх паездак у папулярных расійскіх газетах публікаваліся падрабязнасці жыцця «ВіцебскагаГулівера».

У іх, у прыватнасці, пісалася, што вага волата дасягае 182 кг, а рост злёгку памяншаецца ў будныя дні, але павялічваецца пасля нядзельнага адпачынку. Уражвалі чытача і антрапалагічныя падрабязнасці Махнова: вушы былі 15 см у даўжыню, а вусны - 10 см у шырыню, даўжыня ступні і далоні былі роўныя 51 см і 32 см адпаведна.

У 1905 году Фёдар Махноў зноў адправіўся за мяжу. У Італіі яго прыняў сам Папа Рымскі.

Папярэдне перарабіўшы пад сябе каюту парахода, Махноў ў чэрвені 1906 перасёк Атлантычны акіян. У Амерыцы яго прыняў тагачасны прэзідэнт Тэадор Рузвельт.

Гігант еў чатыры разы на дзень, як і звычайныя людзі, але аб'ёмы ежы шмат разоў перавышалі рацыён сярэдняга чалавека. Кожную раніцу ён еў 20 яек, 8 круглых булак белага хлеба з маслам, выпіваў 2 літры гарбаты. Абед складаўся з 2,5 кг мяса, 1 кг бульбы, 3 літраў піва. Увечары волат з'ядаў таз садавіны, 2,5 кг мяса, 3 баханкі хлеба і выпіваў 2 літры гарбаты. А перад адыходам да сну яму падавалі 15 яек, бохан хлеба, 1 літр малака або гарбаты ... ».

Нягледзячы на ветлівыя прыёмы на самым высокім узроўні, падарожнічаць Фёдару Махнову ўсё ж было цяжка: транспарт, гасцініцы, рэстараны не былі прыстасаваны да яго росту.

Нягоды качавога жыцця і бытавыя праблемы Гулівера ў краіне ліліпутаў не дадалі яму здароўя. Абвастрыліся хваробы, зароблены ў сцюдзёных водах рэчкі Заронаўкі. Усё з большымі намаганнямі яму прыходзілася рухаць свае вялізныя ногі.

Каб палегчыць перамяшчэнне волата, Ота Біліндэр з Германіі даслаў у падарунак каня-цяжкавагавіка. Фёдар надзвычай хутка прывык да каня, але праблему перамяшчэння ён не вырашыў, так як пры яздзе верхам, яго ногі цягнуліся па зямлі. Калі ж ён выязджаў на далёкія адлегласці, у якасці сродку перамяшчэння выкарыстоўваў тройку коней.

Фёдар Махно быў моцным гаспадаром. Адным з першых у акрузе ён ўжыў сельскагаспадарчыя машыны, якія яму ласкава дасылаў Біліндэр. Адзін час волат спрабаваў разводзіць коней.

У гэты час змяняецца і склад сям'і Фёдара. У 1911 годзе ў яго нарадзілася дачка Маша, а праз год - блізняты Радзівон (Радзімір) і Гаўрыіл (Галюнь).

У 1912 годзе, праз 6 месяцаў пасляпараджэннядзяцей,саамы высокі чалавек планеты сканаў. Прычына смерці дакладна не ўстаноўлена. Па адных крыніцах ён памёр ад туберкулёзу, па іншых - ад хранічнага запалення лёгкіх.

У часопісе «Рускі спорт» з'явіўся некралог, які паведамляе пра смерць вядомага змагара-волата.

Пахавалі Фёдара Махнова на могілках у вёсцы Касьцюкі.

На каменным надмагіллі да гэтага часу можна прачытаць: «Федоръ Андреевичъ Махновъ род-6 чэрвеня 1878 года скончылася. 28 жніўня 1912 на 36 годзе. Самы Вялікі Человъкъ въ Миръ. Ростомъ Былъ 3 аршыны 9 вяршкоў».

Фактычна волат пражыў поўных 34 гады, г.зн. памёр на 35 годзе, а рост у 3 аршыны 9 вяршкоў (254 см) - менш фактычнага амаль на 30 см, быў узяты з першага кантракту 16-гадовага роста хлопца.

Жонка волата пасля хацела выправіць памылкі на надмагіллі і перарабіць агароджу, але пачалася Першая сусветная вайна, ды рэвалюцыйныя падзеі, якія й перашкодзілі ёй гэта зрабіць.

**Якаў Дрозд**

ПАДЗЕІ

# ХІРАМОН БАКАЕВА НАВЕДАЛА МАГІЛУ СВАЙГО ДЗЕДА

**На вайсковае пахаванне ў в.Задзвінне Віцебскага раёна прыехалі госці з Чэхіі.**

Хірамон Бакаева - дачка Нарымона Бакаева, вядомага ў Таджыкістане пісьменніка, які некалі ўзначальваў Фонд міру і Камітэт абароны міру Таджыкістана, наведала магілу свайго дзеда журналіста Ата Бакаева.

У 1941 годзе ён пайшоў на фронт, стаў камандзірам узвода 334-й стралковай дывізіі. Лейтэнант Бакаеў загінуў 27 снежня 1943 года і пахаваны ў в.Задзвінне.

Унучка працягнула журналісцкуюдынастыюБакаева, Хірамон працуе ў таджыкскай службе радыё «Свабода» ў Чэхіі. Яна шмат чула ад бацькі пра свайго дзядулю і прыняла рашэнне наведаць яго магілу.

Разам з мужамІсламам і трохгадовым сынам Аскарам яе сустракаў у Віцебску старшыня Курынскага сельскага выканкама Аляксандр Рыбакоў.

На вайсковым пахаванні ў Задзвінне гасцей з Чэхіі чакалі дырэктар Курынскай школы-сада Аляксандр Мікалаевіч і кіраўнік школьнага музея Лілія Коласава, якія на падставе гістарычных звестак распавялі пра падзеі сямідзесяцігадовай даўніны на Прыдзвінскай зямлі.

Няўрымслівы Аскар прыціх, калі мама ўскладала кветкі на мемарыяльную пліту з высечанай прозвішчам яго прадзедаў. «Як спакойна тут нашаму старэйшыне роду, - вымавіла Хіромон. - Ён склаў галаву за цудоўную краіну, у якой лёгка дыхаецца і дзе свята шануюць памяць аб загінулых ".

Пакланіўшыся магіле, замежныя госці адправіліся ў Курына, дзе наведалі школу-сад. Па прызнанні Хірамон, у Чэхію яе сям'я павязе выдатныя ўражанні пра сельскую школу, вайсковае пахаванне, гасціннасць людзей і ў цэлым пра Беларусь.

**Паводле http://www.pridvinje.by/ 2013/06**

ПРАТЭСТ

# ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ — СУПРАЦЬ МЫТНАГА САЮЗА

**27 чэрвеня па ўсёй Беларусі прайшоў папераджальны страйк індывідуальных прадпрымальнікаў, незадаволеных новымі ўмовамі гандлю ў рамках Мытнага зьвязу. Страйкавалі і ў Віцебску.**

Рэчавыя рынкі часткова ці цалкам не працавалі практычна ўва ўсіх абласных цэнтрах, а таксама ў Баранавічах, Полацку, Касьцюковічах ды іншых гарадах.

Найбольш маштабным пратэст быў у Менску — акцыю падтрымалі Чэрвеньскі рынак, гандлёвыя цэнтры «Паркінг», «Люстэрка», «Манетка», «Уручча», шапікі на тэрыторыі, прылеглай да гіпэрмаркету «Бігз», на стадыёне «Дынамо». Эпіцэнтрам прадпрымальніцкага незадавальненьня стаў рынак «Ждановічы», дзе агулам спынілі працу блізу паўтары тысячы павільёнаў. У ходзе акцыі затрымалі лідэра аб'яднаньня «Пэрспэктыва» Анатоля Шумчанку і шэраг незалежных журналістаў. Сярод апошніх быў і наш карэспандэнт Ігар Карней.

Масавасьць акцыі зьдзівіла нават ініцыятараў яе правядзеньня. Зрэшты, як сказаў з прыступак гандлёвага цэнтру «Сьвет моды-1» на рынку ў Ждановічах адзін зь лідэраў прадпрымальніцкага руху Анатоль Шумчанка, новыя ўмовы гандлю, якія сталіся вынікам сяброўства Беларусі ў Мытным зьвязе, тычацца занадта вялікай колькасьці людзей, каб рабіць выгляд, што нічога не адбываецца.

Найперш нараканьні выклікае тэхнічны рэглямэнт, які ўступае ў сілу 1 ліпеня і тычыцца перадусім рэалізацыі тавараў лёгкай прамысловасьці: «Тэхнічны рэглямэнт — гэта рашэньне беларускага боку, ініцыятар — Расея. Беларускі бок у 2011 годзе зьняў з нас усе патрабаваньні: мы працавалі спакойна, пакуль ня ўляпаліся ў гэты Мытны зьвяз. Як толькі ўляпаліся — так і панесласся. Дарэчы, ініцыятарам палажэньня была Расея, распрацоўвалі Казахстан, а пакутуюць беларусы. Вось вам і закулісьсе Мытнага зьвязу. Паколькі ў іх ніякія законы ня дзейнічаюць, там сапраўдны бардак. Таму яны папросту не зьвяртаюць увагі на такіх, як мы. Адзіны выхад — гэта вывесьці прадпрымальнікаў розьнічнага гандлю з-пад дзеяньня дадзенага тэхнічнага рэглямэнту.

Хай яны, краіны Мытнага зьвязу, ствараюць агульныя органы правапарадку, хай яны на межах агульнага рынку Расеі і Казахстану ловяць сваіх кантрабандыстаў, глядзяць, каб у іх былі гэтыя маркі, каб захоўвалася якасьць. Хай у стэпах Казахстану і на Далёкім Усходзе ўсё гэта робяць. Але мы не павінны цярпець з-за таго, што яны напісалі законы (у сябе не выконваюць — плюнулі), і мы тут давай, танцуй. Пад пагрозу нацыянальны бізнэс паставілі, перавярнуўшы ўсё з ног на галаву».

Незадаволенасьць прадпрымальнікаў патлумачыў Анатоль Шумчанка — маўляў, пастанова аб нібыта падаўжэньні тэрміну гандлю паводле ранейшых схемаў існуе толькі на словах:

«Паслухайце: вы ж пісьменны чалавек, чыноўнік, які працуе ва ўладзе. Не дэманструйце прылюдна хоць свой узровень. Гэтая пастанова не прайшла юрыдычнай экспэртызы ў Міністэрстве юстыцыі. Навошта вы нам яе зачытваеце?»

На падтрымку калегу прыйшоў Аляксандар Таўстыка. Ён безапэляцыйна заявіў: сёньня вырашаюцца ня столькі ўмовы тэхнічнага рэглямэнту, а тое, куды заўтра могуць рушыць незадаволеныя прадпрымальнікі: «Як прадпрымальнік падтрымаю Шумчанку. Фактычна мы абмяркоўваем наступнае: альбо мы працуем на 1 ліпеня ў нармальных умовах, у гэтых будынках, альбо мы выходзім на Кастрычніцкую плошчу (воклічы з натоўпу — „Усё правільна!“). Вы хочаце зараз сказаць, што ў Пуціна ў Расеі чысты бізнэс, ня шэры, што там усе маюць сэртыфікаты? А з чым вы тады зараз прыйшлі да нас? Вы зараз прачыталі пра нейкія нацыянальныя сэртыфікаты. Мы зараз працуем у адзіным Мытным зьвязе. І мы ведаем, што цяпер ёсьць новы ўзор сэртыфікатаў для краінаў Мытнага зьвязу. А вы зноў павяртаеце нас да нейкага нацыянальнага сэртыфікату. Ідзіце пачытайце што-небудзь разам з Кабяковым».

Прадпрымальнікі абураныя, што беларускія ўлады традыцыйна ставяць іх перад фактам, не спрабуючы выпрацаваць агульную пазыцыю з тымі, каму ў новых умовах рэальна працаваць. Так, спадарыня Ніна кажа, што чыноўнікі заўсёды ўспрымаюць гандляроў як клясу, якая зусім ня ўпісваецца ў сыстэму пдянавай эканомікі. А таму і раіцца з дэструктыўнымі элементамі не зьбіраецца: «За што мяне, маіх сяброў так караюць нашы чыноўнікі? Проста таму, што яны нас лічаць за быдла. Я калісьці гандлявала ў Расеі. Прыходзіць АБЭП, падатковая: добры дзень, вашы дакумэнты. Адказваю: дзяўчаты, я зь Беларусі. Яны перапытваюць: а вы заплацілі падаткі? Не, кажу. Давайце, маўляў, заплацім. Плачу па нашых грашах 50–100 тысяч рублёў — і працую далей. Няма праблемаў, да пабачэньня, усе міла разышліся. А нашы прыходзяць — я стаю, калачуся, у мяне дрыжыць голас, стаю перад імі навыцяжку. Пры тым, што гэта мая ўласнасьць, я на гэты тавар зарабляла ўсё жыцьцё, мне ж ніхто ня даў першапачатковага капіталу. Я б шмат чаго нагаварыла, але, на жаль, у нашай краіне лепей маўчаць…»

Пры канцы акцыі Анатоля Шумчанку запрасіў на гутарку намесьнік начальніка РАУС Цэнтральнага раёну сталіцы Шарамецьеў. Прадпрымальнік адмовіўся размаўляць зь міліцыянтам сам-насам, сказаўшы, што калі ёсьць намер яго затрымаць, то можна гэта зрабіць і прылюдна. Той адступіў.

У суправаджэньні журналістаў Свабоды, «Народнай волі» і парталу Tut.by спадар Шумчанка даехаў да гандлёвага цэнтру «Паркінг», але пры пасадцы ў ліфт усіх затрымалі. Журналістаў пасьля дзьвюх гадзін ідэнтыфікацыі асобы ў Цэнтральным РУУС выпусьцілі, Шумчанку некалькі да вечара пратрымалі ў пастарунку, а пасьля ў закрытым рэжыме асудзілі на 5 сутак адміністрацыйнага арышту.

**"Радыё Свабода"**

ПОМНІЦЬ!

# «СЬВЕТЛЫ БЫКАЎ»

**19 чэрвеня — сьветлы дзень. Мы звычайна ў гэты дзень ішлі да Васіля Быкава, віншавалі яго з Днём народзінаў. Я бачыў, што Быкаў і сам любіў такія спатканьні. Ён пачуваўся ў Фронце душэўна ўтульна. Атмасфэра ласкі і дабрыні, якая атуляла яго і якая ўвогуле была тады ў сядзібе БНФ, вельмі імпанавала яму. Усе жылі, як на крыльлях. Ужо была Незалежнасьць (наша мара і наша перамога), была беларуская школа, вольны друк, змагаліся за добрае будаўніцтва сваёй краіны.**

Для многіх з нас гэта былі гады душэўнага шчасьця. Для Васіля Уладзімеравіча, відаць, таксама. Калі ён бываў у нас у сядзібе, аблічча яго станавілася лагодным, а вочы сьвяціліся. Яму было добра.

У 1994 годзе яму споўнілася 70 гадоў. Грамадзкасьць і афіцыёз, і мы ў Фронце, рыхтаваліся кожны па-свойму тое адзначаць. Але Быкаў (які ўвогуле не любіў урачыстых афіцыёзаў) адмовіўся ад ушанаваньня свайго юбілею і ў Саюзе пісьменьнікаў, і ў іншых месцах. Ён сказаў, што будзе толькі ў Фронце, у сядзібе БНФ. І я разумеў, чаму ён так вырашыў.

Прыйшла моц людзей. Але не было ні адной чужой афіцыёзнай фізіяноміі, ніводнай фальшывай прамовы. Сабраўся цьвет нашай творчай нацыі, былі цёплыя позіркі і словы, простыя шчырыя дачыненьні і народныя сьпевы. Думаю, што было якраз тое, што трэба было гэтаму вялікаму чалавеку для добрасьці яго шчырай беларускай душы.

Праз 10 гадоў гэтыя ж самыя людзі праводзілі яго ў апошні шлях. Ужо перамяніўся сьвет. Цемра, хамства, гразь і нянавісьць віравалі вакол, імкнуліся зганьбіць ягоную сьмерць. Гэбоўскія бесы выскоквалі на дарогу, спрабавалі танцаваць перад яго труной. Эфір гэбісцкіх рацый поўніўся матам і подлымі камандамі на подлыя справы (гэта чулі сьведкі).

Нічога ня выйшла ў цемрашалаў. Абвалілася ў іх усё. Наша сіла мацнейшая. Сьветлым і магутным быў апошні шлях Васіля Быкава.

Быкаў мог дажыць да 90 гадоў. Ён мог яшчэ быць разам з намі. Мы вельмі перажывалі, што ён адышоў і ведаем ягоных скрытых забойцаў. І ўсё ж такі Боская воля лепшая, чым нашыя меркаваньні.

Дажываючы да 90, гэты вялікі чалавек вымушаны быў бы з году ў год адчуваць павелічэньне нянавісьці, брыдоты, ілжы вакол свайго сьветлага імя. Зьдзекваліся б зь яго старасьці так, як рабіў гэта адзін вусаты мярзотнік у час яго сьмерці, аплёўвалі б яго мінулае, яго творчасьць і славу. Гэта было б, бо такая прырода падлюг, што цяпер дасягнулі ўлады.

За сябе мне сказаць проста. За 25 гадоў у палітыцы, вакол майго арганізму ўжо даўно стварылася стальная браня. І няма на сьвеце такой ілжы з боку нізкіх, якая б мяне раніла ці выбіла б з раўнавагі. Нездарма яны захлёбваюцца — гэта ад бясьсільля.

Не сумняваюся, што ўсё перамог бы і Быкаў, але... прапусьціўшы праз сэрца. Бо такая прырода сьветлых людзей.

Сьмерць Быкава выклікае адчуваньне трагедыі і горычы ня толькі таму, што ворагі прысьпешылі яго паміраньне і ён мог яшчэ жыць, але найперш таму, што сьветлы Быкаў пайшоў, а акупанцкая чэрнь засталася, віруе, кіруе, і ён ня ўбачыў яе канца.

Ён убачыць яе зь нябёс. Тут вельмі розныя сутнасьці. Нечысьці ў індывідуальным выяўленьні абавязкова прыходзіць натуральны канец. Нечысьць нічога не пакідае для будучыні.

Тым часам імя і творчасьць Быкава належаць вечнасьці, бо адлюстравалі яе ў вобразах, думках і характве. Творчасьць Быкава — гэта сусьветны ўзровень, пазнаньне для ўсяго чалавецтва.

Гэта будзе ўсьвядомлена моцна, калі моцнай будзе Беларусь, тая сьветлая, культурная і магутная народная Беларусь, за якую змагаўся Народны Фронт.

**19 чэрвеня**
**Зянон ПАЗЬНЯК**

БЕЛАРУСЬ -- ЕЎРАЗЬВЯЗ

# У БРУСЭЛІ ЧАКАЮЦЬ ВЫЗВАЛЕННЯ ПАЛІТВЯЗНЯЎ

Еўрасаюз у аднабаковым парадку зняў візавыя санкцыі з міністра замежных спраў Уладзіміра Макея, і гэта пры тым, што ў беларускіх турмах застаюцца палітвязні. Што стаіць за аднабаковым рашэннем Еўрасаюза і да чаго можа прывесці гэтая саступка? «Беларускі партызан» пагутарыў з палітолагам, намеснікам старшыні Руху "За Свабоду" Алесем Лагвінцом.

***- Афіцыйны Мінск не зрабіў ні аднаго кроку насустрач Еўразвязу, які ў аднабаковым парадку адмяніў візавыя санкцыі ў дачыненні да Уладзіміра Макея. Чаму?***

- Думаю, рэжым пастараўся паднесці некаторыя факты як вялікі прагрэс: не дадзены ход справах супраць Пачобута і Булгакава, маюцца факты візітаў Палецкіса і Міятавіч, апошняя, дарэчы, была неўязны ў Беларусь. Зразумела, што сітуацыя ў краіне застаецца стабільна цяжкай, але рэгіянальныя кантэксты, мабыць, настойлівыя сігналы з Мінска падштурхнулі краіны ЕС зрабіць саступку ў працэдурным пытанні. Гэты крок, хутчэй, варта разглядаць як праява жадання ЕС стаць больш прыкметным у Беларусі.

***- Візавыя санкцыі Еўрапейскага саюза ў дачыненні да Уладзіміра Макея прыпынены на той час, пакуль ён займае пасаду міністра замежных спраў Беларусі. І зроблена гэта з мэтай спрасціць дыпламатычныя кантакты паміж ЕС і Беларуссю. Так тлумачыць сваю пазіцыю Еўрасаюз. Наколькі лагічным Вам уяўляецца гэта рашэнне?***

- Рашэнне неадназначнае. Бачна, што ў ЕС аддаюць перавагу палітыцы ўцягвання, а ня ізаляцыі. Гэтая тэндэнцыя прасочваецца і ў палітыцы ЕС у дачыненні да Украіны і іншым краінам Усходняга партнёрства, дзе таксама хапае палітычных праблем і парушэнняў правоў чалавека. За ўплыў на краіны УП ідзе канкурэнцыя паміж ЕС і Расіяй. Для ЕС важна захаваць і пашырыць еўрапейскую перспектыву для нашага рэгіёну.

***- Вядомы палітолаг назваў адмену візавых санкцый паразай Еўропы: прыпыняючы санкцыі, Брусэль адмаўляецца ад прынцыповай пазіцыі па беларускім палітвязням. А, значыць, вагаецца і не ведае, што рабіць.***

- Параза Беларусі і яе грамадзян, у тым ліку і палітычных каментатараў, у тым, што многія любяць быць назіральнікамі і каментатарамі, а ня гульцамі. Працей за ўсё назапасіцца поп-корнам і глядзець на «бітву тытанаў». Варта глядзець фактах ў твар, а не кідаццa лёзунгамі і абвінавачваннямі. Краіны ЕС найбольш паслядоўна і прынцыпова (прычым, хутчэй, больш паслядоўна, чым многія грамадзяне нашай краіны) аказваюць рознага роду падтрымку палітвязняў і іх сем'ям. ЕС пакуль не бачыць у Беларусі крытычнай масы, гатовай аказваць істотны ціск на рэжым і абараняць свае правы.

***- Брусэль зрабіў крок насустрач Мінску. Які ход у адказ гатовы зрабіць беларускі рэжым?***

- Усе чакаюць вызвалення палітвязняў. Гэты крок - лакмусавая паперка.

ГУЛЬНІ БЮРАКРАТАЎ

# ЯК ЗАБАРАНІЛІ, ТАК І ДАЗВОЛІЛІ

**Мясьніковіч дазволіў калоць сьвіней па-старому, калі на месцах, у тым ліку і ў Гарадоцкім раёне, не выканалі яго даручэнне аб "арганізацыі рэзу" у кожным аграгарадку. Фэрмэрскім і асабістым гаспадаркам вярнулі права самастойна забіваць сельскагаспадарчых жывёл на мяса.**

Адмысловая пастанова Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчаваньня апублікаванана Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале і ўступае ў сілу ад 14 чэрвеня.

Згодна з пастановай, дазваляецца да 1 студзеня 2014 года самастойна забіваць буйную і дробную рагатую жывёлу, сьвіней, коней для продажу мяса.

Аднак рабіць гэта можна толькі пад кантролем ветэрынара з правядзеньнем санітарнай экспэртызы.

Гэтай праблемай асабіста займаўся прэм'ер-міністар Міхаіл Мясьніковіч.

На пачатку году была прынятая пастанова, што забіваць жывёл з асабістых гаспадарак будуць у спэцустановах. Потым гэтае пытаньне разглядалася на нарадзе ва ўрадзе. 22 траўня Мясьніковіч даручыў павялічыць колькасьць пунктаў для зарэзу сельскагаспадарчых жывёл. То бок зрабіць «забойныя цэхі» у кожным аграгарадку. Пры гэтым прэм'ер запатрабаваў павысіць якасьць такіх паслуг ды зьнізіць кошты.

Амаль празь месяц Мясьніковіч выказаў незадаволенасьць «арганізацыяй рэзу». І вярнуў права прыватным гаспадаркам самім забіваць жывёл на мяса.

**"Радыё Свабода"**

АФРЫКАНСКАЯ ЧУМА

# ПОЛГОДА СКРЫВАЛИ АФРИКАНСКУЮ ЧУМУ СВИНЕЙ?

**Любопытный документ был опубликован 28 июня на сайте Национального правового портала. Речь идет о постановлении Минсельхозпрода №3, которое предоставляет главному ветврачу страны и его замам, главным ветинспекторам областей и их замам полномочия командовать губернаторами и иными местными руководителями в случае подозрения на или выявления очага африканской чумы свиней (АЧС).**

При подозрении на АЧС (перечисленные должностные лица) вправе давать обязательные для исполнения указания местным исполнительным и распорядительным органам о введении на территории соответствующих административно-территориальных единиц режима, аналогичного режиму в неблагополучном по АЧС пункте, с проведением соответствующих ограничительных мероприятий", - говорится в документе.

Аналогичные полномочия предоставлены ветврачам по указаниям "о введении в первой угрожаемой зоне режима, аналогичного режиму в неблагополучном по АЧС пункте, с проведением соответствующих ограничительных мероприятий", сообщает АФН.

В связи с последними событиями – речь идет о выявлении очага АЧС в Гродненской области – данный документ выглядит вполне закономерным: он позволяет ветеринарной службе приструнить тех губернаторов и начальников районного масштаба, которые по понятным причинам хотели бы повременить с введением карантина и началом весьма непопулярных мероприятий по устранению последствий АЧС, включая полную зачистку от свиней целых районов.

Постановление Минсельхозпрода вступает в силу через 15 дней после подписания. В этой связи особое любопытство вызывает следующий факт – документ был подписан еще 4 февраля 2013 года, а зарегистрирован на Национальном правовом портале – только 28 июня 2013 года (регистрационный номер 8/27636).

Такую способность Минсельхозпрода к пророчеству можно объяснить лишь тем, что в начале примерно около полугода назад в Беларуси уже были зафиксированы случаи АЧС и властям удалось избежать утечки информации (а с публикацией постановления решили повременить).

**«Белорусский партизан»**

АТРЫМАЦЬ ЗАРОБАК

# ПРАЦАЎНІКІ «ВЫБІВАЮЦЬ» ЗАРОБКІ ПРАЗ СУД

**Працаўнікі Круглянскага ільнозавода 20 чэрвеня падалі пазоў у суд Круглянскага раёна з патрабаваннем да адміністрацыі прадпрыемства выплаціць заробкі за красавік і травень, а таксама грошы на адпускныя.**

Жанчын, якія працуюць на прадпрыемстве, адправілі ў адпачынак і не пусцілі на працоўныя месцы 20 траўня, пасля таго, як яны калектыўна выступілі супраць закрыцця Круглянскага льнозавода. Да гэтага часу ім не выплацілі заробак за красавік і адпрацаваныя дні траўня, а таксама так званыя адпускныя грошы, якія павінны былі аддаць перад сыходам у вымушаны адпачынак.

Да падачы пазова ў суд жанчыны звярталіся па дапамогу ў пракуратуру ў Круглянскага раёна, аднак там іх не абнадзеілі ніякім чынам, сказалі, што завод усё роўна будзе зачынены.

Грамадская актывістка з Круглага Зінаіда Мілешчанка, якая дапамагае людзям адстойваць свае правы і складаць скаргі ў розныя інстанцыі, кажа, што людзі знаходзяцца проста ў адчаі.

«І ў мяне асабіста, і ў працаўнікоў льнозавода складваецца ўражанне, што раённыя ўлады ўсё робяць дзеля таго, каб не заплаціць работнікам завода за ліквідацыю іх працоўных месцаў ні капейкі.

Круглянскія ўлады не хочуць зачыніць завод і звольніць людзей згодна заканадаўства: своечасова папярэдзіць, выплаціць прадугледжаную законам дапамогу, ды паставіць на ўлік на біржу працы. Замест гэтага яны зачыняюць завод паэтапна. Жанчынам прапануюць часовую працу за 40 кіламетраў у Шклове, дзе яны змогуць адпрацаваць месяц-другі, а пасля зноў застануцца бяз працы. Улады проста хочуць прымусіць работніц льнозавода звольніцца па ўласнаму жаданню, каб не выплочваць грашовую дапамогу за страту працоўных месцаў.

Ім да гэтага часу не выплацілі заробак за красавік і травень, а таксама і адпускныя, хоць адпачынак у жанчын заканчваецца 25 чэрвеня. Я дапамагла працаўніцам льнозавода скласці і падаць пазоў у суд Круглянскага раёна, будзем чакаць, ці здолее ён абараніць іх правы».

Бальшыня працаўнікоў, якім пагражае звальненне, адпрацавалі на заводзе больш за 15 гадоў. Многія з жанчын знаходзяцца ў перадпенсійным узросце.

**«Вясна»**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# ПРЭМІЯ БЫКАВА – У МАРАЧКІНА І ВАЙЦЮШКЕВІЧА

**19 чэрвеня на радзіме Васіля Быкава (у вёсцы Бычкі ва Ўшацкім раёне) адбылося ўручэнне сёлетняй прэміі "За свабоду думкі", заснаванай кіраўніком Руху "За Свабоду" Аляксандрам Мілінкевічам.**

У музеі-сядзібе Васіля Быкава адбылася традыцыйная сустрэча, прысвечаная памяці пісьменніка. Каля 60 чалавек прыехалі ў Бычкі, каб ушанаваць вялікага пісьменніка. Сярод іх - палітыкі Вячаслаў Грыб і Аляксандр Мілінкевіч, 1-ы сакратар амбасады Славакіі ў Беларусі Эрык Липтак, бард Андрэй Мельнікаў, а таксама грамадскія актывісты і прадстаўнікі мастацтва і культуры з усёй Беларусі. На мерапрыемства таксама прыйшлі прадстаўнікі адміністрацыі Ушацкага раёна і мясцовыя жыхары.

Прэміяй "За свабоду думкі" імя Васіля Быкава ў гэтым годзе ўганараваны два чалавекі – музыка Зміцер Вайцюшкевіч і мастак Алесь Марачкін.

Нагадаем, прэмія "За свабоду думкі" імя Васіля Быкава заснаваная лідарам Руху "За Свабоду" Аляксандрам Мілінкевічам у 2008 годзе. Прызначэннем прэміі з'яўляецца ўслаўленне моцы думкі і духу, плённай працы на ніве беларушчыны. Ідэя заснаваць яе ўзнікла пасля атрымання Мілінкевічам прэміі "За свабоду думкі" імя Андрэя Сахарава, якую ўручае Еўрапарламент.

Працы Алеся Марачкіна (псеўданім – Алесь Мара) захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, у музеях і прыватных галерэях Беларусі, Польшчы, Германіі, ЗША.

Алесь Марачкін узнагароджаны медалём Францыска Скарыны за высокія дасягненні ў справе нацыянальнага адраджэння, прапаганду культурнай спадчыны беларускага народа (1992). Двойчы адмовіўся ад ганаровага дзяржаўнага звання - "Заслужаны мастак БССР" у 1989 годзе, пратэстуючы супраць сістэмы дзяржаўнага патранату і кантролю за мастацтвам, і "Заслужаны мастак Рэспублікі Беларусь" у 1995 годзе на знак пратэсту супраць антыбеларускай і антыдэмакратычнай палітыкі Аляксандра Лукашэнкі.

Зміцер Вайцюшкевіч удзельнічаў у гуртах "Крыві" і "Палац". Цяпер ён лідар і кіраўнік гурту "WZ-Orkiestra". Гурт выконвае музыку ў стылі world music, рэтра, гарадскі шансон, рок, аўтарская песня. Прызнаваўся "Музыкам году" і "Выканаўцам году" на "Рок-каранацыі".

Шмат цёплых слоў у гэты дзень было адрасавана пісьменніку Васілю Быкаву. Яго сястра Валянціна распавяла, як да вайны Быкаў хацеў стаць мастаком і, хоць і быў самавук, праяўляў вялікі мастацкі талент. Але лёс склаўся так, што ён стаў мастаком слова.

Па словах Валянціны Уладзіміраўны, пісьменніку давялося нялёгка.

- Цэнзары не пакідалі яго ў спакоі, - адзначае сястра. - Усё таму, што ён пісаў праўду пра простых людзей, пра простых салдат, і гэтая праўда ніколі не падабалася начальству.

Ужо амаль 10 гадоў, як Быкава няма з намі. Нягледзячы на гэта, ён па-ранейшаму застаецца адным з самых папулярных беларускіх аўтараў. Што сведчыць: справа яго жыве.

Тое, што хвалявала Быкава ўсё яго жыццё - беларуская мова, незалежнасць і чалавечую годнасць - працягвае нас хваляваць і цяпер.

**www.pyx.by/bel/naviny/ruh/2989/**

**Заснавальнік і рэдактар:**
Салодкі Сяргей Аляксандравіч

**Адрас рэдакцыі:** г.Віцебск, 3-я Мопраўская, д. 14, тэл. 26-42-02, маб. +375299410197.
Газета выдаецца з траўня 2003 г.

**Падпісана да друку** 30.06.2013 у 17.10
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.